№ 65 (187)

Субота, 12 красавіка 1997 г.

Выдаецца
на беларускай і рускай мовах

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**






**Сонца**

| | Усход | Захад |
|---|---|---|
| Віцебск | 6.04 | 19.57 |
| Магілёў | 6.06 | 19.52 |
| Гомель | 6.06 | 19.48 |
| Мінск | 6.17 | 20.04 |
| Гродна | 6.32 | 20.19 |
| Брэст | 6.36 | 20.17 |



**Пратэст**

## Так – рабоце! Не – жабрацтву!

Пад такім дэвізам прайшоў у Мінску мітынг рабочых.

Ён рыхтаваўся даўно. Прафсаюзныя актывісты аўтасельгасмаша і радыёэлектроннай прамысловасці збіраліся правесці яго яшчэ год таму. Але тады прэзідэнт тэрмінова склікаў сход рабочых і паабяцаў ім вырашыць многія праблемы, у тым ліку і прадаставіць трыбуну на тэлебачанні і радыё. Ды свае слова так і не стрымаў. У верасні мінулага года рабочыя зноў напомнілі аб сваіх патрабаваннях. Безвынікова. У канцы лютага ў Мінску праведзены сход прадстаўнікоў працоўных калектываў, на які з'ехаліся больш за 700 актывістаў амаль з сотні прадпрыемстваў краіны. Яны зноў звярнуліся са сваімі патрабаваннямі да прэзідэнта і ўрада. Рабочыя ставяць пытанні аб павышэнні зарплаты, своечасовай выдачы яе і пагашэнні запазычанасці, стварэнні новых рабочых месцаў, прадастаўленні прафсаюзам эфіру на тэлебачанні і радыё. Вярхі зноў не адрэагавалі.

Таму рабочыя вырашылі напомніць аб сабе мітынгам. Ён адбыўся ў мінулую сераду. Каля стадыёна "Трактар" сабралася прыкладна ад 5-ці да 10 тысяч рабочых. Прама скажам, не многа. Відаць, паўплываў націск пэўных структур на старшынь прафсаюзных камітэтаў. У дзень мітынгу бліжэйшыя заводы ад месца яго правядзення — маторны і падшыпнікавы — "нечакана" закончылі работу перад абедам, і іх працаўнікі паехалі дамоў здаля ад мерапрыемства каля стадыёна "Трактар".

На мітынгу выступалі рабочыя многіх мінскіх заводаў. Яны найперш гаварылі аб цяжкіх умовах жыцця.

— Чаму я не магу нармальна паесці? Чаму я не магу аплаціць праезд у аўтобусе? — эмацыянальна гаварыў адзін з іх і патрабаваў ад улад надаць зарплаце статус першачарговага плацяжа, павысіць яе памер хоць бы да таго ўзроўню, каб можна было пракарміць сям'ю. Рабочыя супраць мяркуемага павышэння тарыфаў за камунальныя паслугі.

Многія прамоўцы заклікалі прэзідэнта "спыніць збіванне людзей дубінкамі на вуліцах". Прысутныя дружнымі апладысментамі падтрымлівалі такіх аратараў.

Прафсаюзны актывіст Завода шасцірон Уладзімір Толкач падкрэсліў: "Мы жадаем жыць у свабоднай незалежнай дзяржаве". Яго словы патанулі ў бурных апладысментах. Калі ж адзін прамоўца пачаў ухваляць палітыку прэзідэнта, яго сталі асвістваць.

"Так — рабоце! Не — жабрацтву", "Думку рабочых — на экраны БТ", "Вярнуць на работу звольненых метрапалітэнаўцаў", — такія лозунгі трымалі ўдзельнікі мітынгу.

Рабочыя аднагалосна прынялі рэзалюцыю, у якой падтрымалі свае ранейшыя патрабаванні да прэзідэнта і ўрада, выбралі дэлегацыю, якая павінна ўручыць іх вышэйшым кіраўнікам краіны. Калі і на гэты раз яны адмахнуцца ад іх, рабочыя абяцаюць арганізаваць больш унушальныя акцыі пратэсту.

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

**Я – патрабую!**

## Аддайце мне мае 4 тысячы доляраў. Я не хачу дарыць іх Расіі

Выступаючы ў Маскве перад журналістамі прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прызнаўся, што за мантаж расійскай ваеннай станцыі на Брэстчыне амерыканцы абяцалі яму 10 мільярдаў долараў, але ён адмовіўся, бо той аб'ект вельмі важны для ўсходняй суседкі.

Мяне моцна ўразіў гэты факт і абурыў да глыбіні душы. Вядома, што амерыканцы не выкідваюць грошы на вецер. Раз назвалі такую суму, дык той аб'ект столькі і каштуе. Чаму ж Расія нам не плоціць за яго столькі? Чаму прэзідэнт адмаўляецца ад такіх вялікіх грошай на карысць Расіі?

10 мільярдаў долараў на 10 мільёнаў насельніцтва. Значыць, на кожнага грамадзяніна Беларусі прыпадае па тысячы долараў. Калі ў мяне сям'я чатыры чалавекі, дык мне прыпадае 4 тысячы долараў. Чаму прэзідэнт вырашыў гэтыя мае грошы аддаць Расіі? Ён вельмі любіць рэферэндумы. Чаму не праводзіць яго наконт гэтых 10 мільярдаў долараў? Калі прэзідэнт асабіста так вылузваецца перад Расіяй, дык няхай сваю тысячу долараў аддае ёй. Няхай сваю долю пераводзяць на Усход адстаўнікі, ветэраны, іншыя грамадзяне, усе хто хоча. А хто — не, пакідае сабе. Трэба ўзяць гэтыя грошы і выпісаць кожнаму чэк, і няхай ён вырашае, як з ім быць: падаць міластыню жабраку ў падземным пераходзе, пераслаць Чарнамырдзіну і яго камандзе, шахцёрам Кузбаса, якія не атрымоўваюць месяцамі зарплату... Але не вырашаць за ўвесь народ аднаму прэзідэнту.

Мы павінны ўзяць з Расіі мільярды долараў за пракачку на Захад нафты і газу, за "пярэдні край" абароны Масквы... Так што, калі б нашы кіраўнікі дбалі пра Беларусь, а не пра Расію, дык мы ўжо даўно жылі б пры камунізме. А саюз з усходняй суседкай ставіць канчатковы крыж на вялізных нашых даходах. Замест іх у нас наставяць ракет і зробяць беларусаў заложнікамі расійскіх авантур.

**Яўген САМОВІЧ**
**жыхар Мінска.**



*Витебск — город с более чем тысячелетней историей — отмечает в этом году 400-летие своего самоуправления, которое он получил по Магдебургскому праву в 1597 году. В том же году на рыночной площади была построена и первая городская ратуша. Нынешняя же ее преемница, которая возводилась в 1775 году и является памятником архитектуры XVIII века, только еще раз свидетельствует о древней самостоятельности славного города на Западной Двине.*

**Фото Александра ХИТРОВА, БелТА.**

**Дэмакратыя па-беларуску**

## Для Еўропы Анатоль Лябедзька можа і дэпутат, а ўлады Беларусі гатовыя кінуць яго за краты

Чыталі пастанову Рады Еўрапейскага Саюза? У ёй ясна сказана: "Еўрапейскі Саюз лічыць, што Канстытуцыя 1994 года застаецца адзіным легітымным вышэйшым юрыдычным дакументам Рэспублікі Беларусь, а парламент, абраны паводле гэтай Канстытуцыі, застаецца легітымным заканадаўчым органам".

Да такой высновы прыйшла Еўропа, прааналізаваўшы шматлікія парушэнні пры правядзенні рэферэндума, факты ўціску незалежных сродкаў масавай інфармацыі, абмежавання грамадзянскіх свабод.

Здавалася б, дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання маюць поўнае права на статус недатыкальнасці, без дазволу самога парламента іх не могуць судзіць. А ў жыцці? На днях даволі хутка вынесла сваё рашэнне суддзя Савецкага раёна г.Мінска Ірына Канапліцкая па справе дэпутата Вярхоўнага Савета 13-га склікання Анатоля Лябедзькі, які прымаў удзел у адным з шэсцяў. Адвергнуўшы ўсе хадатайствы аб спыненні разгляду справы, яна прысудзіла Лябедзьку штраф у памеры 2-х мільёнаў 600 тысяч рублёў.

Што ж, для Еўропы Анатоль Лябедзька можа і дэпутат, а ўлады Беларусі гатовыя кінуць яго за краты.

**Антон КРУПНІК.**

## Віталь Шчэрба адкрывае гімнастычны клуб. Але ў Амерыцы

Шасцікратны алімпійскі чэмпіён Віталь Шчэрба адкрывае ў Амерыцы гімнастычны клуб, які будзе насіць яго імя. Аб гэтым расказала маці славутага гімнаста Валянціна Мікалаеўна. "Сваім бізнесам, — сказала яна, — Віталь займецца ў штаце Арызона, адкуль і паступіла гэтая прывабная прапанова. А пакуль што яму дае фору мая нявестка. У Ірыны — былой акрабаткі, якая ўваходзіла ў зборную СССР, нечакана прачнуўся талент мастака-дызайнера. Закончыўшы на выдатна гадавыя курсы, яна была запрошана на работу ў адзін з прэстыжных дамоў мэблі. І цяпер створаныя ёю ўзоры ідуць проста нарасхват. Так што Віталь пры арганізацыі свайго бізнесу можа разлічваць і на матэрыяльную падтрымку сваёй жонкі".

Сам гімнаст, як вынікае з яго пісьма да маці, у час адной з трэніровак атрымаў невялікую траўму нагі і цяпер у паказальных выступленнях выключае элементы са скачкамі. Аднак ён сур'ёзна будзе рыхтавацца да маючага адбыцца сусветнага чэмпіянату ў Швейцарыі, дзе выступіць за зборную Беларусі.

**Вячаслаў ДУТАЎ,**
**БелТА.**

## Никому из тех, кто избивал людей, не уйти от ответственности

Резкой критике подвергли Устав Союза России и Беларуси лидеры Объединенной гражданской партии на пресс-конференции 10 апреля. Станислав Богданкевич заявил, что заключение договора между двумя державами несет угрозу не только национальному суверенитету Беларуси, но и ставит под удар государственность Российской Федерации. Особую обеспокоенность вызывают статьи договора, касающиеся военного сотрудничества и надгосударственных властных структур. Богданкевич в целом охарактеризовал действия президента Лукашенко как предательство национальных интересов.

Бывший министр внутренних дел Юрий Захаренко призвал граждан, пострадавших во время массовых акций протеста, направлять информацию о противоправных действиях милиции в Комитет национально-экономической безопасности по адресу: 220033 (а/я 194). Он рассказал, что комитет устанавливает личности тех, кто нанес людям телесные повреждения. "Ни один из виновных в избиении людей сотрудник органов внутренних дел не уйдет от ответственности", — заявил представителям прессы Юрий Захаренко.

**Сергей ШАГОЛЬСКИЙ.**

## Гадавы сход выказаўся...

Галоўны сход года Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі прайшоў даволі салідна. У ім бралі ўдзел больш за сотню камандзіраў вытворчасці і навукоўцаў, прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, старшыня Савета рэспублікі Нацыянальнага сходу Павел Шыпук, старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Уладзімір Ганчарык, міністры.

З грунтоўным дакладам выступіў прэзідэнт БНПА Міхаіл Лаўрыновіч. Ён адзначыў, што, нягледзячы на цяжкасці, шэраг калектываў працуе стабільна. Але хвалюе тое, што многія па-ранейшаму працуюць "на склад". Практычна не вядзецца тэхнічнае абнаўленне заводаў. Калі цяперашнія тэмпы яго захаваюцца, дык старое абсталяванне можа быць заменена толькі праз 40 гадоў. А варта — праз кожныя пяць.

Вяла вядзецца рэфармаванне эканомікі. Летась група спецыялістаў Англіі, Германіі, Францыі прапанавала цікавы варыянт аздараўлення беларускай прамысловасці. Ды ён згубіўся ў кабінетах урада.

Гадавы сход асацыяцыі выказаўся за актыўны ўдзел яе спецыялістаў пры падрыхтоўцы заканадаўчых і нарматыўных актаў, у выпрацоўцы мер па скарачэнню схаванага беспрацоўя, перападрыхтоўкі кадраў, якія трапілі пад скарачэнне, наладжванні супрацоўніцтва з арганізацыямі і прадпрыемствамі блізкага і далёкага замежжа. На жаль, арыгінальных, свежых ідэй па выхаду з крызісу не пачута, так мовіць, інтэлектуальнага прарыву не адбылося. А менавіта яго варта чакаць ад такой саліднай арганізацыі.

**Алесь ДРАБЧУК.**

**Крымінал**

## Цана даверлівасці — жыццё

Ад шматлікіх нажавых раненняў, атрыманых ва ўласнай кватэры ў выніку разбойнага нападу, памёрла ў бальніцы 33-гадовая прыватная прадпрымальніца з Гродна. Устаноўлена, што яна стала ахвярай уласнай даверлівасці. Змясціўшы аб'яву ў адной з газет аб скупцы каштоўнасцей і ўказаўшы ў ёй хатні адрас, жанчына ўпусціла ў кватэру незнаёмца, які вырашыў завалодаць яе каштоўнасцямі.

Разбойны напад з мэтай абрабавання ўчыніў 23-гадовы ваеннаслужачы-кантрактнік; супраць яго ўзбуджана крымінальная справа.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ.**

**У соседей и у нас**

## За избиение журналиста украинские власти наказали 14 сотрудников правоохранительных органов

В так называемые советские времена многие газеты брали пример с самого главного издания страны — "Правды". А потому и заводили на своих страницах рубрики типа "У них и у нас". У них, то бишь капиталистов, — все было плохо, у нас, естественно, все хорошо. И только в эпоху гласности мы узнали, что все соответствует действительности с точностью до наоборот.

И хотя времена меняются, сейчас самый раз вспомнить о забытой рубрике. Тем более, что поводов для этого предостаточно.

На днях, например, с Украины пришло сообщение, что за избиение журналиста здесь наказано 14 сотрудников правоохранительных органов. Милиционеры, которые непосредственно участвовали в глумлении над собственным корреспондентом газеты "Правда Украины" по Хмельницкой области Михаилом Василишко, ожидают заключения прокуратуры. А вот начальник Центрального отдела городской милиции уволен с должности, выговоры получили два заместителя начальника управления областной милиции, всего в той или иной степени ответили перед законом 14 сотрудников правоохранительных органов.

У нас подобной информации могли бы даже не поверить. Ибо в Беларуси безосновательно избили уже далеко не одного представителя средств массовой информации. И никто за это наказания не понес. Вот вам Украина и вот вам Беларусь...

**Владимир ГЛОД.**

**Незлобивые заметки**

*Семен БУКЧИН*

## КТО ПОДРЫВАЕТ БЕЗОПАСНОСТЬ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ, или РАЗМЫШЛЕНИЯ НАД ПОСТАНОВЛЕНИЕМ № 218

Какое государство не заботится о своей безопасности? Такая забота — явление вполне нормальное и общепринятое. Вот и наш Совет министров, движимый, безусловно, самыми лучшими намерениями, 18 марта с.г. утвердил соответствующий документ со скучным и непримечательным, на первый взгляд, названием: "Об установлении запретов и ограничений на перемещение вещей через таможенную границу Республики Беларусь".

Начинается эта бумага, как и положено, эпическим зачином: "В целях защиты национальной безопасности Республики Беларусь, прав и свобод личности, здоровья и нравственности населения, а также окружающей среды..." И далее предлагается "Государственному таможенному комитету по согласованию с министерствами и иными республиканскими органами в месячный срок разработать и утвердить номенклатуру вещей, запрещенных к перемещению через таможенную границу Республики Беларусь, и вещей, ограниченных к перемещению через таможенную границу Республики Беларусь..."

Пока разрабатывается эта самая "номенклатура", Совмин сам дал в приложении к тому же постановлению необходимую "наводку" в виде "Перечня вещей, запрещенных к перемещению через таможенную границу Республики Беларусь". Итак, нельзя ввозить "отходы производства, которые не могут быть переработаны и использованы в Республике Беларусь". В самом деле, зачем нам чужие, ни на что не годящиеся отходы? У нас своих хватает. Разумеется, вывозить нельзя "дикорастущее лекарственное сырье, растения и животных, занесенных в Красную книгу Республики Беларусь", ну и, конечно, "культурные ценности"...

А вот то, что нельзя ни ввозить, ни вывозить: *"Печатные и аудиовизуальные материалы, иные носители информации, содержащие сведения, которые могут причинить вред политическим или экономическим интересам республики, ее государственной безопасности, охране здоровья и нравственности граждан"*. Пункт особо нас интересующий, поскольку вывезти беловежского зубра, занесенного в Красную книгу, дело не только преступное, но и хлопотное. Что же касается всяких печатных и разных аудиовизуальных материалов, то тут возникает большой простор, с одной стороны, для сомнений граждан, права и свободы которых берется защищать белорусское государство, с другой — для проявления административного рвения.

При советской власти все-таки было проще. Существовал Главлит или точнее — Главное управление по охране государственных тайн в печати, и было в его инструкциях все расписано: это вот государственные секреты, а вот эти материалы относятся к вражеской пропаганде, подрывающей безопасность государства. Имелся и список имен "нехороших" авторов, сочинения которых считались "подрывными". Удобно было редактору газетному или журнальному. Заглянул в список, сверил и можешь вычеркивать или оставлять какое-то имя.

Сегодня в редакторско-цензорское кресло у нас может влезть таможня. Точнее ее туда усаживают начальники, которые повыше. Что там борьба с контрабандой, наркотиками? На первый план выдвигается задача политического сыска. Таможенник отныне наделяется правом следить за политической благонадежностью граждан.

Представьте себе. Вы возвращаетесь из поездки в Германию. На столике вашего купе рядом со стаканом недопитого чая лежит популярный немецкий журнал "Шпигель", первую страницу которого украшает довольно злая карикатура на президента Лукашенко. И вы видите, как у таможенника, уже не обращающего внимания на протянутую вами декларацию, круглятся от ужаса глаза. Вот она, крамола! Изымается журнал, составляется протокол... Ну а уж дальше, как повезет — штраф, суд, тюрьма... В нашем государстве этот спектр весьма разнообразен.

И напрасны будут ваши речи о том. что подобные карикатуры — нормальное явление в цивилизованных странах, что критика президента Лукашенко не имеет ничего общего с подрывом национальной безопасности Республики Беларусь. Цивилизованные страны нам не указ! Поскольку у нас президент олицетворяет государство (а это следует из Конституции 1996 года и многочисленных указов и декретов о самом себе, подписанных Лукашенко), постольку всякая критика президента есть подрыв государственных устоев.

Ладно, если дело ограничится одним журналом... Но вот границу пересекает фура с тиражом одной из печатаемых в Литве (благодаря все тому же свободолюбивому президенту Лукашенко) белорусских независимых газет. Раскрывает таможенник свежий экземпляр, а там статья, критикующая нынешний белорусский режим. А в кармане у таможенника бумажка с "номенклатурой вещей", в которой подобные статьи обозначены как не имеющие права въезжать в Республику Беларусь. Естественно, изымается тираж. И никакой нужды закрывать газеты через шумные и долго тянущиеся суды. Два-три тиража арестовал, и газеты разорены...

Дорого бы я дал, чтобы взглянуть на этот "номенклатурный" списочек. Любопытно, как , по каким признакам они обозначили и расклассифицировали всю "неугодную" печатную и аудиовизуальную "номенклатуру". Кто и каким образом будет определять степень "зловредности" критической статьи о белорусских властях, напечатанной, к примеру, в варшавской "Газете выборчей"? Натурально, что встает и вопрос о поступлении в Беларусь газеты "Известия", о поступающей к нам "картинке" московских телеканалов... Все это должно быть запрещено к "ввозу". Собственно, борьба в этом направлении уже ведется на самом высоком уровне. Московское телевидение и либеральная российская печать теперь заклятые враги президента Лукашенко, которых он не раз пытался с помощью российских властей "поставить на место". Остается одно — запретить "ввоз".

Желая получить ответы хотя бы на некоторые вопросы, я позвонил в службы Совмина и Таможенного комитета, имевшие отношение к подготовке постановления № 218. Чиновники были вежливы и доброжелательны. Но узнать удалось немногое. Прежде всего потому, что уж больно мутное это дело, оказывается, когда смешивают критику с национальной безопасностью. Вроде бы отделять овец от козлищ будут некие эксперты. Но один эксперт может увидеть только критику, а второй — угрозу для той же национальной безопасности. А поскольку к экспертизе будут привлекаться преимущественно вторые, люди с "государственным", а не либеральным взглядом на вещи, то исход всех заключений ясен уже сегодня: враг не пройдет.

Кто будет конкретизировать "номенклатуру", т.е. характеризовать в подробностях, что и почему подлежит запрету? Вполне достойные и опытные в этом деле организации: КГБ, Госкомпечать, некий государственный центр безопасности информации. Неужели мы возвращаемся ко временам тотального контроля над умами, когда провоз книги Солженицына или эмигрантского журнала грозил если не тюрьмой, то изгнанием с работы? Если это не так, то почему недостаточно обычных статей закона, предусматривающих наказание за попытки свержения государственного строя, за вред, наносимый национальной безопасности? Если есть таковые попытки, выраженные печатно или аудиовизуально, пусть вступает в действие закон. Но в том-то и дело, что власть желает взять под контроль буквально все и вся. Власть желает накрыть своим удушающим колпаком все население страны, все сферы жизни. Каждый должен ощущать на себе придирчивый взгляд "недрёманного ока". Ныне и "застойная эпоха" может показаться царством либерализма.

Впрочем, удивляться нечему. В условиях, когда несогласных с политикой Лукашенко избивают на улицах дубинками, когда учителя внушают школьникам, что на "Чернобыльский шлях" собираются уголовники, когда детей заставляют наушничать на родителей (возвращаются времена Павлика Морозова), когда людей силком загоняют в пролукашенковские "общественные" организации, а недовольных увольняют с работы, когда Белорусское телевидение вместе с газетами-содержанками лукашенковского режима бесстыдно лжет, когда идет по стране тотальный сыск, постановление Совмина № 218 выглядит вполне закономерным. Я уверен, что в соответствующих службах составлен и список "неугодных" авторов. Чтобы "оперативно решить вопрос", когда потребуется...

Но, господа-сочинители совминовского постановления, я должен вам напомнить, что все это уже было... Еще в начале века в Российской империи составлялись так называемые "Указатели запрещенных изданий и авторов". Среди последних были даже Пушкин и Лев Толстой (отдельные произведения). А уж статьи "Уголовного уложения" как назывались! Не чета вашим формулировкам.

Статья 73-я — "Оскорбление святыни".

Статья 103-я — "Оскорбление величества" (думаю, к нашим порядкам вполне подойдет).

Статья 128-я — "Дерзостное неуважение верховной власти и порицание существующего образа правления". Ну это прямо про нас!!

Статья 1034-я — "Распространение в печати заведомо ложных сведений, возбуждающих враждебное отношение к правительству, должностным лицам или войску". И эта тоже к нам имеет прямое отношение.

Ну и что из всего этого запретительства вышло? Революция.

Но что нам уроки истории! У нас ОМОН хорошую зарплату получает. Поэтому бунтовать, подобно голодным царским солдатам, не будет. Если потребуется — еще накинем. Пусть старики в вымерших деревнях дохнут. Главное, чтобы ОМОН был здоров. Тогда и мозги граждан под палками обретут правильное направление.

Поэтому вперед, таможня!

Через неделю "документ" вступает в силу. Жить становится все лучше, все веселей...

## На жаль, узровень злачыннасці пакуль не знізіўся

Нягледзячы на намаганні, якія прыкладаюць праваахоўныя органы ў барацьбе са злачыннасцю, істотнага зніжэння яе ўзроўню пакуль не назіраецца. Такі вывад быў зроблены на нарадзе, прысвечанай вынікам работы органаў пракуратуры рэспублікі ў першым квартале бягучага года.

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў прэс-цэнтры Пракуратуры рэспублікі, улічваючы шматлікія звароты грамадзян у сувязі з парушэннямі заканадаўства пры куплі і продажы валюты, Генеральны пракурор Алег Бажэлка даў даручэнне прааналізаваць прымяненне прэзідэнцкага Дэкрэта нумар 1 "Аб мерах па забеспячэнню парадку пры ажыццяўленні валютна-абменных аперацый".

**БелТА.**

## Падтрымайце дэмакратыю!

**У 62-м нумары "Народнай волі" была надрукавана Дэкларацыя беларускай грамадскасці ў абарону законнасці і правоў чалавека. Свае подпісы пад Дэкларацыяй вы зможаце паставіць, калі патэлефануеце ў штаб-кватэру Вярхоўнага Савета 13-га склікання па нумары 239-04-25. Такім чынам вы падтрымаеце беларускую маладую неўсталяваную дэмакратыю.**

